ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# КЕРАМІКА ЛЯСНОГА НЕАЛІТУ ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў ПРАЦАХ ПОЛЬСКІХ АРХЕОЛАГАЎ МІЖВАЕННАГА ЧАСУ

СТАНІСЛАЎ ЮРЭЦКІ

***Анатацыя:*** У артыкуле разглядаецца ўнёсак польскіх даследчыкаў міжваеннай Польшчы (1921–1939) у вывучэнне найбольш старажытнай керамікі на тэрыторыі сучаснай паўночна-заходняй Беларусі. Асвятляецца дзейнасць такіх даследчыкаў, як Л. Казлоўскі, У. Галубовіч, А. Цегак-Галубічова, У. Антаневіч і Ю. Кастшэўскі. Падсумоўваецца значнасць прац гэтых археолагаў для сучаснай навукі.

***Ключавыя словы:*** польскія археолагі, міжваенны час, гісторыя навукі і гістарыяграфія, лясны неаліт, кераміка.

# CERAMICS OF THE FOREST NEOLITHIC AGE OF THE NORTH-WESTERN BELARUS IN THE WORKS OF THE POLISH ARCHAEOLOGISTS OF THE INTERWAR PERIOD

***Abstract:*** The article is focused on the contribution of the Polish researchers of the interwar period (1921–1939) in the study of the most ancient ceramics on the territory of the modern North-Western Belarus. It highlights the work of such researchers as L. Kazlouski, U. Galubovich, A. Cegak-Galubovich, U. Antanievich, J. Kastshevski. The importance of the works of these archaeologists for the modern science is summed up.

***Keywords:*** Polish Archaeologists, Interwar Period, History of Science and Historiography, Forest Neolithic Period, Ceramics.

Пачатак вывучэння керамікі культур ляснога неаліту (адзіным надзейным маркёрам іх аднясення да неаліту з'яўляецца кераміка) быў закладзены польскімі навукоўцамі міжваеннага часу (1921–1939 гады). У дадзены перыяд былі сфармуляваны ўяўленні пра тое, што неалітычная эпоха ў сваім развіцці не была аднароднай. Так, яшчэ на самым пачатку 1920-х гадоў Леон Казлоўскі (Leon Kozłowski) прысвяціў свой артыкул разгляду каменнага веку на тэрыторыі Польшчы. У гэтай працы навуковец звярнуў увагу, між іншым, і на так званую культуру балтыйскай керамікі, што была распаўсюджана на паўночна-ўсходніх землях тагачаснай краіны. Археолаг указаў на адрозненні дадзенай культуры ад астатніх неалітычных супольнасцяў Польшчы.

Сярод асаблівасцей культуры балтыйскай керамікі Л. Казлоўскім называліся: а) паляўніча-качавы лад жыцця яе носьбітаў, якія толькі пазнаёміліся з пачаткамі земляробства; б) кераміка, чарапкі якой знойдзены выключна на месцах былых паселішчаў; в) шчыльнае аздабленне дадзенай керамікі адбіткамі зубчатай палачкі і косткі; г) асноўныя матывы арнаментацыі керамікі ў выглядзе гарызантальных уцісканых паясоў, касых кароткіх слупкоў, якія размешчаны ў шэрагі альбо конты і выціснутыя зубчатай лапаткай; ямкавыя ўціскання з выпукласцямі на адваротным баку; наяўнасць адтулін пад краем венцаў; д) своеасаблівы крамянёвы інвентар, што ў асноўным характарызуецца буйнымі і старанна апрацаванымі прыладамі. Галоўным у дадзеным артыкуле Л. Казлоўскага быў той факт, што культура так званай балтыйскай керамікі разглядалася як своеасаблівая на фоне суседніх неалітычных культур. Істотным таксама з'яўляецца і тое, што пры апісанні дадзенай культуры археолаг звяртаўся да матэрыялаў непасрэдна з тэрыторыі паўночна-заходняй Беларусі (Лідскі і Віленскі паветы) (Kozłowski, 1921: 40).

Асноўныя характэрныя рысы культуры балтыйскай керамікі былі паказаны на прыкладзе керамічных артэфактаў. Важнасць вывучэння керамікі заўважаецца і пры спробе Л. Казлоўскага вызначыць перыядызацыю згаданай супольнасці. Так, вучоны прапанаваў падзяліць культуру на старэйшую і малодшую фазы. Пры гэтым галоўным індыкатарам падзелу з'яўлялася адсутнасць альбо наяўнасць на керамічных начыннях шнуравога арнаменту (Kozłowski, 1921: 41).

Працяг у вывучэнні керамікі ляснога неаліту паўночна-заходняй Беларусі знаходзім у даследаваннях Уладзіміра Антаневіча (Włodzimierz Antoniewicz). Вучоны вылучыў на тэрыторыі паўночна-заходняй Беларусі старажытнасці, якія звязаў з прафінамі. Галоўнай прыкметай іх ідэнтыфікацыі для археолага былі знаходкі так званай прафінскай керамікі. Згодна з У. Антаневічам, асноўнымі асаблівасцямі такой керамікі з'яўляліся: а) буйназярністасць і слабая прафіляванасць

ля самага края венца; б) “карбаванасць” керамікі; в) арнаментацыя ў выглядзе адбіткаў ямак, а таксама дзюрак, якія былі нанесеныя акруглай драўлянай палачкай. Да пазнейшай прафінскай керамікі навуковец адносіў аздабленне ў выглядзе грабянёвых адбіткаў, трохкутных і авальных па форме. Таксама адзначалася наяўнасць на кераміцы розных ямкавых уцісканняў, бароздак, грабянёвых адбіткаў, насечак і бугаркоў (Antoniewicz, 1930: 106–107).

Вывучэнне керамікі са згаданай тэрыторыі ў перыяд паміж сусветнымі войнамі знайшло сваё адлюстраванне і ў працах Алены Цегак-Галубічовай (Helena Cegak-Hołubiczowa). Як і папярэднія даследчыкі, яна атаясамлівала найбольш старажытныя знаходкі ляпной керамікі з прафінамі. Прафінская кераміка, па меркаванні А. Цегак-Галубічовай, утрымлівала ў сваім гліняным цесце каменныя дамешкі. Такая кераміка класіфікавана даследчыцай у выніку вылучэння 2-х фаз. Ранняя фаза характарызуецца арнаментам у выглядзе дзюрак альбо ямак, што былі нанесены палачкай. Кераміка позняй фазы адметная геаметрычнасцю ў аздабленні, якое прадстаўлена гарызантальнымі пасамі адбіткаў грэбеня альбо палачкі, што была абмотана шнурком (Cehak-Hołubiczowa, 1936: 15–16).

Неабходна таксама адзначыць і публікацыю Уладзіміра Галубовіча (Włodzimierz Hołubowicz), якая была прысвечана знаходкам неалітычнай керамікі з паселішча каля Любчы Навагрудскага павета. Археолаг надаў вялікую ўвагу тэхналагічным асаблівасцям у яе вывучэнні. У выніку археолаг падзяліў дадзеныя керамічныя артэфакты па прыкмеце дамешкаў у фармовачным цесце: раслінных, мінеральных і “звярыных”(Hołubowicz, 1939: 261–266).

Для разумення ўзроўню развіцця першабытнай археалогіі ў міжваеннай Польшчы вельмі важным з’яўляецца разгляд даследавання Юзэфа Кастшэўскага (Józef Kostrzewski) “Pradzieje Polski”, што пабачыла свет у 1949 годзе. Аднак неабходна пазначыць, што Ю. Кастшэўскі працаваў над ім падчас нямецкай акупацыі ў падполлі. Таму кніжка зведала толькі нязначныя карэкціроўкі перад выданнем пасля вайны і сведчыць пра агульны ўзровень развіцця польскай міжваеннай археалогіі.

Ю. Кастшэўскі пры разглядзе неалітычных культур на тэрыторыі Польшчы звярнуў увагу на прысутнасць своеасаблівай супольнасці – правуграфінскай культуры. Як найважнейшая рыса дадзенай культуры археолагам прыводзілася правуграфінская кераміка. Яна была апісана па трох найважнейшых паказчыках: тэхналогіі, марфалогіі і арнаментацыі. Так, з тэхналагічнага боку, згодна з Ю. Кастшэўскім, правуграфінская кераміка характарызуецца благім абпалам, а таксама

наяўнасцю ў фармовачным цесце дамешак кварцу, радзей тоўчаных ракушак і, як выключэнне, травы і валосся (Kostrzewski, 1949: 45–46).

Да найбольш старажытных пасудзін прафуграфінскай керамікі Ю. Кастшэўскі аднёс вастрадонныя начынні з простымі альбо загнутымі ў сярэдзіну венцамі. Навуковец звяртаў увагу і на благую захаванасць фрагментаў керамікі, што перашкаджае ўзнавіць поўную форму пасудзін. Дадзеная акалічнасць тлумачылася яе недастатковым адпалам. Сярод асноўных матываў арнаментацыі былі заўважаны розныя ямкавыя і грабянёвыя адбіткі, радзей наколы. Аздабленне такой керамікі, згодна з Ю. Кастшэўскім, характарызуецца гарызантальнымі і вертыкальнымі пасамі. Даследчык адзначаў таксама храналагічную тоеснасць ямкавага і грабянёвага арнаментаў (Kostrzewski, 1949: 46).

Такім чынам, у міжваенны час польскімі навукоўцамі распрацоўваўся шэраг праблем, што тычацца адной з асноўных катэгорый археалагічных знаходак – керамікі. Увага была звернута і на неалітычную кераміку з тэрыторыі сучаснай паўночна-заходняй Беларусі. Даволі дасканалае вывучэнне на ўзроўні тагачаснай навукі зведала і так званая “прафінская” кераміка. Польскімі даследчыкамі той пары былі пастаўлены такія пытанні, якія з’яўляюцца актуальнымі і для сучасных археолагаў. Перадусім гэта тычыцца праблемы ўзаемадзеяння цэнтральнаеўрапейскіх неалітычных супольнасцяў з культурамі ляснога неаліту. Таксама трэба звярнуць увагу на тое, што ў дадзенай працы разгледжаны толькі выданні прафесійных археолагаў міжваеннага часу, якія непасрэдна вывучалі кераміку. Кола ж даследчыкаў першабытных старажытнасцяў паўночна-заходняй Беларусі ў часы міжваеннай Польшчы было значна большым.

***Бібліяграфія***

1. Antoniewicz, Włodzimierz (1930). “Czasy przedhistoryczne i wczesnodziejowe ziemi Wileńskiej”, *Wilno i ziemia Wileńska.* Wilno: Wydawnictwo wojewodzkiego komitetu regionalnego: 103–126.

2. Cehak-Hołubowiczowa, Helena (1936). *Zabytki archeologiczne województwa Wileńskiego i Nowogródskiego.* Wilno: Dziennik urzedowej K.O.S.

3. Hołubowicz, Włodzimierz (1939). “Ceramika grzebieniowa z Lubcza, w powiecie nowogródzkim, z mineralną, roślinną i zwierzęcą domieszką w glinie”, *Przegląd Archeologiczny,* 6(2–3): 261–266.

4. Kostrzewski, Józef (1949). *Pradzieje Polski. Z XXY tablicami oraz 46 rycinami.* Poznań: Księgarnia Akademicka.

5. Kozłowski, Leon (1921). “Stan i zadania badań nad epoką kamienną w Polsce”, *Wiadomości Archeologiczne,* VI: 23–46.